© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

# Газета Слонімская

*№ 15 (44). Слонім. 10 — 16 красавіка 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*

НАВІНЫ

## Пенсии по-новому

**Скоро размер пенсии будет зависеть не от трудового стажа.**

Об этом заявила министр социальной защиты Ольга Даргель, представляя депутатам Национального собрания Беларуси дополнения к закону «О пенсионном обеспечении».

Согласно внесенным изменениям, пенсии предполагается начислять не от трудового стажа, а от размера социальных отчислений и их продолжительности.

Сегодня в республике — 2,5 миллиона пенсионеров, при этом средняя пенсия составляет 1.475.300 рублей, что значительно ниже прожиточного минимума.

**БелаПАН.**

## Квартплата ўзрасце

**З 16 красавіка плануецца павелічэнне тарыфаў па кватрплаце і камунальных паслугах.**

Павышэнне коштаў у гэтай галіне дасягне 20-25%. Адпаведна вырастуць тарыфы на электраэнергію.

Пра гэта паведамілі газеце "Навіны" у Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

У сваю чаргу начальнік планавага аддзела мясцовага вытворчага аб'яднання ЖКГ Алена Котава заявіла карэспандэнту "ГС", што ў Слонім пакуль не паступала ніякіх дакументаў, якія б рэгламентавалі павышэнне памераў кватэрнай платы і камунальных паслуг.

## Падаражэў газ

**З 1 красавіка 1998 года зацверджаны новыя тарыфы на газ. Цяпер за гэты від паслуг насельніцтва будзе плаціць дзесьці на 40% больш.**

Пры наяўнасці газавай пліты і цэнтральнага гарачага водазабеспячэння памер аплаты складае зараз 14260 рублёў з чалавека, калі ў кватэры маецца воданагравальнік — 40998, пры адсутнасці награвальніка і цэнтралізаванага газавага водазабеспячэння — 23173. Калі жыхар карыстаецца індывідуальнымі газавымі ацяпляльнымі прыборамі, то падчас халоднага сезона яму будуць налічваць штомесячна 5069 рублёў за кожны квадратны метр жылой плошчы, а ўлетку — 2028.

За балон звадкаванага газу, які спажываецца насельніцтвам, вагой 21 кілаграм з красавіка неабходна будзе плаціць 95 тысяч рублёў.

**Наталля ФУРСАВА**

## Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!

Так вітаюць хрысціяне адзін аднаго на Вялікодныя святы. І сапраўды, гэта самае вялікае свята хрысціян, бо калі б Хрыстос не ўваскрэс, дарэмнай была б наша вера ў лепшае жыццё.

Вялікдзень — гэта самы радасны дзень, бо ўваскрэсшы Хрыстос перамог грахі, пекла і смерць. Ён жыве, трыумфуе, дае кожнаму з нас магчымасць быць шчаслівым і збаўленым. Асабліва радасным стане свята для ўсіх тых, хто рыхтаваўся да яго, захоўваючы саракадзённы пост, ачысціўшы душы для вялікоднай споведзі, абнавіўшы памяшканні, у якіх жывуць.



Усе гэтыя кранальныя абрады — не проста звычай. Яны маюць мэту дапамагчы нам глыбей пазнаць і перажыць таямніцы пакутаў і смерці Хрыста і прывесці нас да пакаяння і перамены жыцця. Няхай наша вялікапосная праца над сабой стане нашым добрым учынкам. У гэты час іх павінна быць больш, чым звычайна.

Любоў да Хрыста, які цярпеў дзеля нас і памёр, мы павінны выразіць у любові да бліжніх, асабліва тых, якія найбольш церпяць. Таму давайце агледзімся і заўважым тых няшчасных, хто навокал нас: галодных, адзінокіх, нямоглых і пакутуючых людзей.

У імя Хрыста, які ахвяраваў сваё жыццё за кожнага з нас, паспяшаемся ім на дапамогу!

Нас усіх чакае радасны вялікодны стол, за якім збіраюцца ўсе: бабулі і дзядулі, мамы і таты, дзеці. Падчас свята ўсе яны дзеляцца паміж сабой вялікодным асвечаным чырвоным яйкам, выказваюць найлепшыя пажаданні, віншуюць адзін аднаго з радасным святам.

Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!

**айцец Вітольд Жэльветра, ксёндз-дэкан касцёла св. Андрэя**



### Расклад набажэнстваў, прысвечаных святкаванню Уваскрашэння Хрыстова

| КАСЦЁЛЫ | св. Андрэя | Маці Божай | Альбярцін | Новыя Дзевяткавічы |
|---|---|---|---|---|
| Вялікі чацвер, 9 красавіка | 19.00 | 17.00 | 15.00 | - |
| Вялікая пятніца, 10 красавіка | 18.00 | 16.30 | 15.00 | - |
| Вялікая субота, 11 красавіка | 18.00 | 20.30 | 24.00 | 14.00 |
| Нядзеля, 12 красавіка | 6.30 | 8.30 | 15.00 | 9.00 |

## Слонімцы — мацнейшыя

**У Слоніме прайшлі занальныя спаборніцтвы па кросу сярод пажарных атрадаў нашага горада, Зэльвы, Дзятлава, Карэліч і Навагрудка.**

Слонімскую каманду прадстаўлялі шэсць спартсменаў. У першы дзень пажарныя спаборнічалі на дыстанцыі 8, 5 і 3 кіламетры. На самай доўгай дыстанцыі слонімцы Алег Фарманюк і Аляксандр Кананові занялі адпаведна другое і трэцяе месцы. Пяць кіламетраў хутчэй за ўсіх прабег наш зямляк Алег Герасімчык, а Ігар Маркушэўскі быў пятым. На дыстанцыі 3 км слонімцы Юрый Бараноўскі і Міхаіл Серафімчык занялі адпаведна першае і чацвёртае месцы. У выніку, у агульнакамандным заліку слонімскія пажарныя былі першымі.

Выйгралі слонімцы і эстафету 5х1500 м.

**Віктар ЗІМНІЦКІ**

НАВІНЫ

## Крэдыты для фермераў

**Нацыянальны банк Беларусі прыняў рашэнне аб адкрыцці ў 1998 годзе крэдытнай лініі для падтрымкі сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак.**

Крэдытныя фонды ў памеры 150 млрд. рублёў будуць пералічаны для абслугоўвання "Белаграпрамбанку".

**БелаПАН**

## Праезд у цягніках даражэе

**Беларуская чыгунка павялічыла тарыфы на прыгарадныя пасажырскія перавозкі: праезд праз адну зону падаражэў на 200 рублёў.**

Напрыклад, цяпер, каб даехаць са Слоніма ў Баранавічы, трэба заплаціць 15400 рублёў, а ў Мінск — 48400. Білеты на дызель да Гродна каштуе 37800 рублёў. Нагадаем, што штраф за безбілетны праезд у прыгарадным цягніку складае 50 тысяч рублёў.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Малайцы!

**Днямі артылерысты Слонімскай механізаванай брыгады паказалі на што яны здольныя.**

Падчас баявых стрэльбаў "богі вайны" паразілі амаль усе мішэні, за што генерал-маёр Іван Чыкал, начальнік ракетных войск і артылерыі міністэрства абароны, ацаніў іх вывучку на "добра".

Асабліва вызначылася батарэя супрацьтанкавых гармат ст.лейтэнанта Фёдара Давыдава. А яго падначаленаму, камандзіру гарматы мл. сяржанту Сабадаху, за трапную стральбу датэрмінова прысвоена званне сяржанта.

**Алесь ЦІШКЕВІЧ**

## У фронта свая газета

**Выйшаў у свет першы нумар газеты Слонімскай Рады БНФ "Змагар".**

Гэта новае выданне на сваіх старонках змясціла не толькі публіцыстыку, але і патрыятычныя вершы Васіля Супруна і Сяргея Грахоўскага. Ёсць у газеце і гістарычныя матэрыялы, якія асвятляюць гісторыю беларускага незалежніцкага руху на Слонімшчыне.

"Змагар" выйшаў накладам 199 паасобнікаў.

**Сяргей ЁРШ**

## Чытайце ў нумары:



ЦЫТАТА НУМАРА

## УСЯ СПРАВА Ў ГАЗЕЦЕ

**Л.І. Ражнова.** Калі будзе ў кранах чыстая вада?

**М.В. Акулік.** (намеснік старшыні гарвыканкама – **«ГС»**) У бліжэйшы час у "Слонімскім весніку" будуць надрукаваны матэрыялы па "воднай" праблеме. Думаю, да канца года праблему знімем.

***"Слонімскі веснік", 4 красавіка 1998 года***

ЗДАРЭННІ

## Як абласныя "гаішнікі" наводзілі парадак у Слоніме

**На мінулым тыдні на дапамогу слонімскім супрацоўнікам ДАІ прыехалі іх калегі з Гродна.**

Гасцям была дадзена поўная свабода дзеянняў — маўляў, працуйце, хлопцы, затрымлівайце парушальнікаў руху, наводзьце парадак на дарогах.

Гродзенскія "гаішнікі" сваім рабочым месцам зрабілі стаянку насупраць магазіна "Верасок", што на Брэсцкай вуліцы, дзе стаіць дарожны знак "Прыпынак грузавога транспарту забаронены".

Вядома, што гэты знак датычыць вадзіцеляў грузавікоў, але чамусьці бравыя афіцэры (старэйшы лейтэнант і капітан) пачалі складаць пратаколы і спаганяць штрафы ад 25 да 100 тысяч з вадзіцеляў "легкавушак".

Так працягвалася некалькі гадзін, пакуль адзін з незаконна пакрыўджаных вадзіцеляў не паскардзіўся начальніку міліцыі Мечыславу Батуры, які накіраваў на месца сваіх супрацоўнікаў . Яны і спынілі анархію гродзенскіх "гаішнікаў".

Пасля гэтага ў слонімскіх вадзіцеляў узнікла сумненне — а ці ведаюць правілы дарожнага руху самі супрацоўнікі абласной ДАІ?

## Застолле скончылася забойствам

**У нядзелю, 5 красавіка, слонімец А. прыйшоў у госці да свайго шваграа С., які жыве на Брэсцкай вуліцы.**

Калі сваякі падпілі і пад'елі па поўнай праграме, то пачалі высвятляць адносіны паміж сабой. Справа дайшла да бойкі, падчас якой адзін са швагроў нанёс другому смяротны ўдар, у выніку чаго малады мужчына памёр.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Крама працуе да поўначы

**Упершыню за ўсю гісторыю савецкага часу прадуктовы магазін у Слоніме пачаў працаваць да 24 гадзін. Гэта — крама №22 (вул. Брэсцкая, 83А), якая належыць гандлёвай фірме "Світанак".**

Як паведаміў "ГС" начальнік упраўлення гандлю гарвыканкама Уладзімір Сарока, зроблена гэта было па рашэнню выканкама па просьбах жыхароў горада і ў сувязі з пераходам на летні час.

Дарэчы, цяпер усе прадуктовыя крамы перайшлі на падоўжаны рабочы дзень.

**Сяргей ЁРШ**

**«Газета Слонімская» приглашает к сотрудничеству распространителей газеты (не моложе 14 лет).**

**Адрес редакции: ул. Я.Купалы, 5. Тел. 2-14-39.**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



ПРИГОВОР

# Кому улыбалась "Фортуна"?

## Или о том, почему кредиты, взятые у государства, не всегда в срок и в полном объеме возвращаются

В 1995 году слонимчане Василий Денищик и Владимир Якимович создали частное предприятие "Фортуна" по производству полиэтиленовой пленки и пакетов из нее. А еще через два года состоялись два судебных процесса по обвинению их в сокрытии доходов, неуплаты налогов и махинациях с кредитами.

Суд установил, что за 1995-96 гг. директор и главбух сокрыли налогов на сумму 60 млн. 103 тыс. рублей.

Также суд признал, что "Фортуна" в 1995 году в Слонимском отделении № 6405 "Беларусбанка" трижды получила кредиты на суммы: 150 млн. руб., 651 млн. руб. и 2065 млн. руб. Ни один из трех кредитов вовремя и в полном объеме фирмой не был возвращен.

Более того, доказано, что для получения кредитов В.Денищик и В.Якимович в банк представляли ложные данные о балансе своего предприятия. Каждый раз, обращаясь в банк за кредитом, они преднамеренно завышали показатели по основным и оборотным средствам в десятки, а то и в сотни раз. Словом, обманным путем выбивали из банка кредиты.

Согласно свидетельских показаний управляющей отделением банка Нины Авдейчик и инспектора кредитного отдела Галины Садовской записано: "В залог по первому и второму кредитам принималось имущество ПП "Фортуна", а по третьему, — имущество колхоза "Рассвет" Слонимского района. Было ли реально в наличии имущество, заложенное под кредиты, они не проверяли. Опись залогового имущества не составлялась..."

Выходит, что без должных проверок, по сфабрикованным дельцами от бизнеса документам выдавались народные деньги на миллиарды рублей. Более того, по сей день "Фортуна" так и не возвратила долги по кредитам в сумме 1659 млн. руб., а неуплата по процентам составила 258,6 млн. руб.

Напрашивается вопрос: кто вернет эти деньги государству? Тем более, что согласно приговору суда В.Денищик и В. Якимович из личных карманов покроют лишь незначительную сумму нанесенного ущерба. В частности, Денищик по приговору суда получил наказание в виде полутора лет исправительных работ по месту работы с удержанием 10% из заработка в доход государства, а также штрафа в сумме 6250 тыс. руб. В.Якимовичу дали один год исправительных работ с удержанием 10% из зарплаты в доход государства. Он оштрафован на сумму 12 млн. руб.

В ходе судебного разбирательства выяснилось, что работники Слонимского отделения сбербанка с грубым нарушением "Положения о банковском кредите" выдавали кредиты фирме "Фортуна". Эти нарушения выявили сотрудники Лидского отделения Нацбанка Беларуси. По мнению суда, деятельность и нарушения должностных лиц сбербанка также требует дополнительной правовой оценки.

В связи с этим, Слонимский межрайонный отдел налоговых расследований через ГРОВД направил в местную прокуратуру соответствующие документы на нарушителей банковских кредитно-финансовых операций. С момента подачи представления прошло более трех месяцев. Однако, какие приняты меры по обращению пока неизвестно. Создается впечатление, что дело как бы положено под сукно...

Иван ЧУГУЕВ

НАШЫ ТРАДЫЦЫІ

# Што ела і піла слонімская шляхта на Вялікдзень

Пасля вялікага посту на Вялікдзень для вернікаў надыходзіць час разгавецца.

Да свята рыхтуюцца самыя сытныя і мудрагелістыя прысмакі. І гэта стала ўжо традыцыяй. Бо Вялікдзень, самае вялікае хрысціянскае свята, перарадзілася ў кулінарнае. Вялікоднае банкетаванне ладзілі не толькі магнаты, але і сціплыя шляхцічы, і сяляне. Ствараецца ўражанне, што духоўны, рэлігійны бок гэтага свята адыходзіць як бы на другі план, саступаючы месца самым што ні на ёсць зямным асалодам.

Вось як выглядала вялікоднае снеданне на прыёме ў князя Сапегі ў Дзярэчыне (у той час — Слонімскі павет). Справа адбывалася ў часы караля Уладзіслава І, які правіў у Рэчы Паспалітай у 1632-1648 гг.

"Стаялі чатыры вялізарных кабана, што азначала 4 пары года. Кожны кабан быў начынены свінінай, гэта значыць вяндлінай, каўбасой і парасятамі. Кухмістар праявіў найвялікшае мастацтва, калі запякаў цалкам гэтых кабаноў. Парамі стаялі дванаццаць аленяў, таксама запечаных цалкам з пазалочанымі рагамі, але для смаку яны былі начынены рознай дзічынай, гэта значыць зайцамі, цецерукамі, дрофамі, белымі курапаткамі. Алені сімвалізіравалі дванаццаць месяцаў года. Вакол стаялі сажаных памераў вырабы з цеста, якіх было столькі, колькі тыдняў у годзе, гэта значыць 52. Там былі цудоўная салодкая здоба, мазуры, жмудскія пірагі, і ўсё ўпрыгожана заморскай садавінай. Акрамя таго, было 365 бабак, гэта значыць столькі, колькі дзён у годзе. Кожная была ўпрыгожана мастацкім узорчатым арнаментам і надпісамі. Так што некаторыя толькі чыталі, а не елі. Што ж да напояў, то было 4 кубкі, якія адпавядалі чатыром порам года, якія былі напоўнены вінам яшчэ з часоў караля Стэфана. Парамі стаяла 12 сярэбраных збаноў з вінам часоў караля Сігізмунда — гэтыя збаны сімвалізавалі 12 месяцаў. Парамі стаяла 52 бочачкі, таксама сярэбраныя адпаведна 52 тыдням, і напоўненыя яны былі кіпрскім іспанскім і італьянскім віном А далей — 365 бутляў з венгерскім віном, гэта значыць столькі, колькі дзён у годзе. А для дваровых — 8700 кварт мёду, столькі, колькі гадзін у годзе".

Канешне, падобная раскоша каштавала не толькі велізарных грошай і забіралі шмат багацця, але і парушала здароўе. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што найбольш разважлівыя продкі называлі магнацкую кухню "ганьбай шляхецкага саслоўя".

ГОРАД

# Святлана запрашае ў «Святлану» ®



Паўтара года назад на вуліцы Яршова, 50 адкрыўся бар "Святлана". У іх была адна зала. Цяпер, як сказала гаспадыня бара Святлана Бута, «Святлана» мае дзве залы. У першай — трыццаць пяць месцаў. А ў другой зале, якая адкрылася ў пачатку сакавіка, — пятнаццаць. Уваход у яе платны. «Другую залу мы адкрылі спецыяльна для таго, каб наведвальнікі маглі тут правесці сямейнае свята ў вузкім коле, банкет ці проста сустрэцца з сябрамі»,— паведаміла спадарыня Бута. Сапраўды, гэта зала вельмі ўтульная і прыгожая, мае асобны ўваход. За паслугі бара можна разлічвацца не толькі наяўнымі грашыма, але і па безнаяўнаму разліку.

**—Як працуе бар і якія цэны?**

—Мы працуем без выхадных з 11 гадзін раніцы да дзвюх ночы. Што датычыць цэнаў, то яны ў нас розныя, але не даражэй, чым у рэстаранах горада.

**—Што сабой уяўляе меню "Святланы"?**

—Мы можам прапанаваць усё, што вы пажадаеце. І бульён, і сардэлькі са складаным гарнірам, і курыныя шынкі, мяса па-французску. Ёсць піца трох-чатырох відаў, шмат бутэрбродаў, салатаў і г.д. У нас адзін з лепшых у горадзе асартымент спіртных напіткаў: толькі вінаў маем 35 назваў, 10 відаў лікёраў. У бары ёсць ласункі і для дзяцей: разнастайныя сокі, напіткі, жэле, марожанае, шакалад, цукеркі...

**—Ці прымае бар папярэднія заяўкі?**

—Так. Заяўкі на адпачынак у бары "Святлана" можна зрабіць па тэлефоне 2-54-05. Чакаем слонімцаў і гасцей горада ў бары "Святлана".

Міхась АКУЛКА

НАШЫ ТАЛЕНТЫ

# Шлях з Хадзявіч у Рэйк'явік



Віктар Мармыш, вучань 11«Б» класа СШ №1, стаў пераможцам рэспубліканскай алімпіяды па фізіцы сярод школьнікаў, якая праходзіла ў Гомелі. Яму ўручаны дыплом І ступені і залаты медаль. Віктар заваяваў права ўдзельнічаць у міжнароднай алімпіядзе школьнікаў па фізіцы, якая будзе праходзіць з 2 па 10 ліпеня 1998 года ў сталіцы Ісландыі, горадзе Рэйк'явіку.

Днямі Віктар Мармыш адказаў на пытанні нашага карэспандэнта.

**—Віктар, якім быў твой шлях да перамогі?**

—Спачатку быў першым на гарадской алімпіядзе, якая праходзіла восенню мінулага года. Падчас зімовых канікул удзельнічаў у абласной алімпіядзе, дзе таксама заняў першае месца і атрымаў права ўдзельнічаць у рэспубліканскіх спаборніцтвах знатакоў фізікі. І вось нядаўна з Гомеля прыйшла вестка, што мая работа прызнана лепшай, у выніку — мне пашанцавала паехаць у Ісландыю, дзе змагу памерацца сіламі са школьнікамі краін Еўропы і Амерыкі. Атрымаў яшчэ адну радасную вестку — мяне прымаюць у Белдзяржуніверсітэт на 1 курс фізіка-матэматычнага факультэта без уступных экзаменаў.

**—Калі ты пачаў захапляцца фізікай?**

— Мне падабаюцца фізіка, матэматыка. Яшчэ калі я вучыўся ў Хадзявіцкай няпоўнай сярэдняй школе, то вельмі захапляўся матэматыкай. Нават удзельнічаў у раённай алімпіядзе і стаў яе пераможцам. Схільнасці да фізікі ў мяне заўважылі настаўнікі першай школы, куды я пайшоў вучыцца ў 10 клас. Выкладчыца Святлана Віктараўна Рамашэўская стала даваць мне дадатковыя, больш складаныя заданні па гэтаму прадмету. Ды і сам я імкнуся вывучаць фізіку самастойна, удзяляю ёй шмат вольнага часу.

**—Акрамя фізікі і матэматыкі, што яшчэ цябе цікавіць?**

—Фізіка і матэматыка захапляе мяне настолькі, як некаторых маіх сяброў музыка ці новыя кінафільмы. Ды, шчыра кажучы, на іншыя справы не хапае часу. Дамоў са школы вяртаюся позна, бо да Хадзявіч, дзе я жыву, шлях немалы — 8 кіламетраў. Увечары разам з мамай, і на мне ляжаць абавязкі дагледжваць хатнюю жывёлу. Сяброў-равеснікаў на маёй вуліцы няма. А пакуль падрыхтую ўрокі, пара ўжо класціся спаць.

**—Як ты дабіраешся ў школу і дамоў?**

—У асноўным — пешшу. Калі стаіць цёплае надвор'е, то езджу ў школу на веласіпедзе. Часта мяне падвозіць дамоў на ўласнай аўтамашыне мой класны кіраўнік Віталь Іванавіч Міцкевіч. Дзякуй яму за гэта.

**—Ці прадугледжана якая-небудзь падрыхтоўка да ўдзелу ў міжнароднай алімпіядзе?**

—Так. У другой палове красавіка ў Мінску адбудуцца першыя зборы членаў каманды рэспублікі, якая складаецца з пяці асноўных і чатырох запасных удзельнікаў. Такіх збораў плануецца правесці некалькі. Напярэдадні мяне чакаюць выпускныя экзамены за курс сярэдняй школы. І толькі пасля гэтага паеду ў Рэйк'явік.

**—Поспехаў табе, Віктар, і перамогі ў Ісландыі!**

—Дзякуй!

Валянцін ЧУРЫЛА

## Удакладненне

У мінулым нумары "ГС" (№14) у інтэрв'ю "Слонімскія харцеры" памылкова былі названы камандзір дружыны слонімскіх скаўтаў. На самой справе дружыновым харцараў з'яўляецца Аляксандр Харытончык (СШ №1).

МРАМОРНАЯ КРОШКА
ФАКС (0162) 94-16-44
ТЕЛ. 94-16-45
Постоянно со склада в Бресте оптом и мелким оптом

Перетяжка и ремонт мягкой мебели.
Качественно и недорого.
2-50-77
2-25-88
С $8^{00}$ до $20^{00}$

Организация предлагает электротехническую продукцию более 200 наименований:
кабель, провод, светильники, лампы, пускатели, автоматические выключатели, кнопки, установочную аппаратуру и др
Тел. в Лиде (261) 2-07-87, факс 2-67-89

Кислород - 140.000 р.
Углекислота - 250.000 р.
Аргон - 750.000 р.
Балоны для газов
Освидетельствование и ремонт баллонов
г. Барановичи ул. Вильчковского, 11 тел. (01634) 9-77-53 2-47-71
"ПРОМГаз" магазин
100 наименований сварочного оборудования;
500 наименований слесарного и строительного инструмента
8 видов красок;
стройматериалы.

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.
E-MAIL: gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 9 красавіка 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.600 экз.
Заказ № 1142.
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.
® Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



# ВЁСКА

## Указ прэзідэнта Беларусі №193

### Аб некаторых мерах па ўдасканаленню рэгулявання дзейнасці сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак

1. Лічыць мэтазгодным заключэнне паміж сялянскімі (фермерскімі) гаспадаркамі і адпаведнымі райвыканкамамі дагавораў аб развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці, што ажыццяўляецца гэтымі гаспадаркамі.

Устанавіць, што ў названых дагаворах прадугледжваюцца:

умовы прадастаўлення сялянскай (фермерскай) гасападарцы зямлі і карыстання ёю;

асноўныя напрамкі дзейнасці сялянскай (фермерскай) гаспадаркі, структура і аб'ёмы вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі;

абавязацельствы райвыканкама па аказанню сялянскай (фермерскай) гаспадарцы дапамогі ў забяспячэнні сельскагаспадарчай тэхнікай, інвентаром, абсталяваннем, транспартнымі сродкамі і іншай неабходнай маёмасцю;

узаемныя абавязацельствы бакоў па развіццю сельскагаспадарчай вытворчасці, што ажыццяўляецца сялянскай (фермерскай) гаспадаркай;

іншыя ўмовы, якія не супярэчаць заканадаўству.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

да 1 мая 1998 г. зацвердзіць тыпавы дагавор паміж сялянскай (фермерскай) гаспадаркай і райвыканкамам аб развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці, а таксама парадак заключэння адпаведных дагавораў;

у трохмесячны тэрмін прыняць неабходныя меры па прывядзенню дзеючага заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам;

сумесна з аблвыканкамамі забяспечыць заключэнне з сялянскімі (фермерскімі) гаспадаркамі названых дагавораў;

прыняць іншыя меры, неабходныя для рэалізацыі палажэнняў гэтага Указа.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня падпісання.

*1 красавіка 1998 г., Мінск*

## Што пасееш...

Аб хлебе

Калі я бачу хлеб,
кінуты на зямлі, —
Ён не проста ляжыць,
а пераносіць мукі.
Тыя, што кінуць
яго маглі—
Гэта не чалавечыя
рукі.

Міхаіл ЛІТВІНЧЫК

На гэтым тыдні некаторыя гаспадаркі раёна выбарачна пачалі сяўбу яравых культур.

У прыватнасці, калгасы "Кастрычнік" і "Міжэвічы" пачалі сеяць авёс. А ўвогуле, сяляне Слонімшчыны сёлета запланавалі пасеяць збожжавыя на 26.048 гектарах.

Па словах галоўнага агранома ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Карла Свіба, усе калгасы і саўгасы раёна амаль цалкам забяспечаны насенным матэрыялам. Нават завезены новыя высокаўраджайныя гатункі ячменю сартоў "Гонар", "Сябра", "Тутэйшы". Тым не менш Карл Канстанцінавіч адзначыў, што лабараторныя даследванні паказалі і высокі працэнт захворвання часткі насення ў некаторых гаспадарках.

А тэхніка, пры дапамозе якой вядзецца пратручванне насення, знаходзіцца ў дрэнным стане, таму на высокую якасць падрыхтаванага зерня для сяўбы разлічваць не прыходзіцца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ВОСЬ ТАК І ЖЫВЁМ

## Дачны сезон

Хутка распачнецца дачны сезон, а значыць людзей чакаюць новыя клопаты і турботы. Добра ведаю гэта сам па сабе. Сённяшнія дачнікі — своеасаблівы добраахвотны рабочы атрад, які з ранку да вечара працуе на сваіх агародах. Асноўны касцяк яго складаюць людзі сталага і пенсі-ённага ўзросту. Няўдобіцы, якія ўлады адвялі пад дачныя ўчасткі, не даюць добрага ўраджаю. Нездарма дачнікі часам з сумам жартуюць: "Ад дачы няма аддачы". А адзін мой знаёмы сказаў: "Пасля нас нашы дачы нашым дзецям будуць непатрэбныя". Яны становяцца непатрэбнымі і многім з сённяшніх дачнікаў. Многія дачныя ўчасткі ўжо не апрацоўваюцца, зарастаюць пустазеллем.

Адна з галоўных праблем — транспартная. Балюча бачыць, як у дачны сезон і пенсіянеры, і маладзейшыя з клункамі на плячах цягнуцца паўз дарогі на свае дзялкі. Мяне, шчыра кажучы, іншы раз здзіўляе цярплівасць і самаахвярнасць гэтых людзей. Ведаю жанчыну, якая адразу ж з работы вечарам за 15-20 кіламетраў едзе на дачу, каб прапалоць і паліць грады. А потым, дома ноччу, яе, увапрэлую, чакае кухня. Убогасць нашага жыцця знясільвае людзей, якім хочацца, каб дзеці і ўнукі паласаваліся свежымі ягадамі ці агароднінай, а мы, дарослыя, як адзначыў адзін знаёмы, і на таблетках пражывём.

Другая праблема — праблема вады. Ведаю многіх гаспадароў дачных участкаў, якія працуюць толькі на зелле, бо без дастатковага паліву на іхніх участках, акрамя травы, анічога не расце. Ваду возяць тачкамі ў бідонах, каністрамі ў машынах, носяць вёдрамі... Пашанцавала тым дачнікам, дзе ўчасткі маюць кіраўнікі прадпрыемстваў. Там падведзена вада, электрычнасць, зроблены і іншыя зручнасці. А астатнім, выходзіць, як Бог дасць.

Немагчыма пералічыць усе праблемы. Іх у дачнікаў шмат.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

МП СОЛГЕЙ
постоянно реализует со склада в Гродно:
отводы, фланцы, переходы, вентили, задвижки, краны, муфты, резьбы, сгоны, термометры, манометры, болты, гайки, шайбы, шурупы, щётки по металлу, круги отрезные, зачистные, шлифовальные.
Тел. в Гродно 44-01-92
44-22-83

АВТОМОБИЛИ
М.П. «РАМОНАК»
реализует автомобили ГАЗ, УАЗ и з/ч к ним
электроинструмент;
оборудование АЗС.
тел/факс в Гродно
44-53-95

# Частный сектор сельского хозяйства Беларуси работает эффективнее, чем колхозы

**Иван НИКИТИЧЕНКО,**
**доктор сельскохозяйственных наук, профессор**

### Реальная картина

Основной формой производства в сельском хозяйстве Беларуси по-прежнему остаются колхозы и совхозы. Их количеством в прошлом году уменьшилось на 20, составив 2503 (1791 колхозов, 628 совхозов, 17 межхозов и 67 так называемых "предприятий новых форм хозяйствования"). Количество фермерских хозяйств за год практически не изменилось (около 3000), но в ближайшее время может существенно сократиться, так как многие из фермеров не прошли перерегистрацию.

Несмотря на отсутствие государственной поддержки, частный сектор (индивидуальные и фермерские хозяйства) в целом работал эффективнее, чем колхозы и совхозы. В его распоряжении находилось чуть более 1 миллиона гектаров пашни, или 16,2% от общей площади. Произведено же здесь около 48% валового продукта, полученного в сельском хозяйстве. В 1997 году в этом секторе было выращено 84,8% картофеля от общего урожая, 80,9 — овощей, 80,8 — плодов и ягод, 34 — кормовых корнеплодов, 8% зерна. У населения было закуплено государством 6,8% мяса и 17,6% молока — сверх того, что продано гражданами на рынках и сдано в счет колхозов и совхозов. Причем доля частного сектора ежегодно возрастает, а общественного — снижается. По производству мяса и яиц они уже сравнялись, а в производстве молока удельный вес частного сектора достиг 57%.

Общественный сектор в прошлом году сократил посевные площади под большинством сельскохозяйственных культур, особенно подо льном (в 1997 году минус 9,4% по сравнению с 1996), картофелем (минус 7,4%), овощами (минус 4,5%).

В частном же секторе, наоборот, почти по всем культурам (кроме картофеля) на 2,6-8,8% расширились посевные площади и увеличился валовой сбор.

В животноводстве, согласно официальной отчетности, в колхозах наметилась стабилизация некоторых показателей и даже тенденция к росту при дальнейшем сокращении поголовья крупного рогатого скота на 1% (в том числе коров — на 2%). Однако этот рост, если он действительно имеет место, все еще незначителен.

По данным о госзакупках, всю прибавку и компенсацию недобора продукции в колхозах и совхозах дал частный сектор. По статистической отчетности, в 1997 году закуплено мяса на 16 тысяч тонн больше, чем в 1996. У населения закуплено 35,7 тысячи тонн. Общественный сектор реально уменьшил поставки по госзаказу на 19 тысяч тонн. Аналогичная ситуация имела место и с закупками молока. Население поставило государству 495,1 тысячи тонн, а вся прибавка за год составила 240,6 тысячи. В результате, частный сектор компенсировал 254,5 тысячи тонн молока, "недоданного" общественным сектором. Такова реальная картина с сельскохозяйственным производством.

### Три пишем, два в уме

В нынешних условиях в Беларуси приписки и фальсификация данных для статотчетности стали нормой жизни. Руководители всех рангов вынуждены идти на это из боязни лишиться постов. Но бумажными показателями сыт не будешь. Поэтому снабжение населения продуктами питания постоянно ухудшается. В общественном секторе произведено в расчете на душу населения лишь около 34 кг мяса, 232 литров молока, 642 кг зерна, 694 кг картофеля. В 1990 году эти показатели составляли соответственно 77,3 кг, 436 литров, 701 кг и 837 кг и были, за исключением зерна, на уровне рекомендованных норм.

Государственная поддержка сельского хозяйства, несмотря на громкие заявления, мизерна. Например, на государственные комплексные программы по развитию агропромышленного комплекса в 1997 году было предусмотрено в бюджете лишь 539 миллиардов рублей (54,7% к уровню предыдущего года), а на поддержку фермерских хозяйств — 70 миллиардов (87%). Для сравнения: на органы государственного управления и местного самоуправления отпущено 1 триллион 300 миллиардов рублей, а на органы внутренних дел — 2 триллиона 142 миллиарда.

В таких условиях хозяйствам ничего не остается, как брать кредиты под грабительские проценты и относить эти расходы на себестоимость продукции. В итоге, несмотря на рост цен на сельскохозяйственную продукцию эффективность общественного производства из года в год снижается. Так, уровень рентабельности продукции растениеводства в 1997 году упал в сравнении с 1996 годом почти на 19%, говядины — 8%.

Кредиторская задолженность сельских хозяйств, по данным Министерства сельского хозяйства и продовольствия, к середине 1997 года приближалась к 14 триллионам рублей. Все имеющиеся на 1 декабря того же года в колхозах и совхозах денежные средства покрывали просроченные платежи лишь на 8,4%. Это и есть цена сегодняшнего руководства сельским хозяйством.

### Кому вершки, а кому корешки

Общим итогом хозяйственной деятельности тех или иных предприятий можно считать уровень их рентабельности. По официальной отчетности в колхозах и совхозах этот показатель несколько возрос за прошлый год. Но это — только по отчетности. Даже если исключить приписки, то к 226-ти убыточным хозяйствам нужно прибавить те, которые имели рентабельность до 15%. Ибо инфляция ее давно поглотила. Это означает, что 73% колхозов и совхозов Беларуси не смогут провести посевную без очередных кредитов, на покрытие которых у них опять, как и в предыдущие годы, не будет средств.

Столь плачевное состояние экономики хозяйств не смогло не сказаться и на уровне жизни сельского населения. Заработная плата у работников сельского хозяйства в целом составила за декабрь 1997 года 62% от средней по республике, а у колхозников и того меньше: 58%. Это в 2,6-2,8 раза меньше, чем у работников управления. Но даже и эта нищенская зарплата выплачивается не вовремя. По состоянию на конец декабря общая задолженность по зарплате в колхозах составила 56,9%.

### Земля есть, а где хозяин?

Главное национальное богатство — земля — по-прежнему не имеет настоящего хозяина, истощается, часть площадей выбывают из сельскохозяйственного пользования. Она совершенно обесценена и как основной капитал не участвует в экономических процессах. Людей запугивают страшными последствиями развалов колхозов и совхозов. Из сельского хозяйства изгнаны последние остатки демократии — больше не проводятся выборы председателей колхозов и сельсоветов. Их теперь назначает районная "вертикаль".

Причины кризисного положения в сельском хозяйстве Беларуси очевидны. Антирыночная государственная политика в отрасли; отсутствие экономически состоятельных реформ; жесточайшая командно-бюрократическая система управления — лишает руководителей хозяйств всякой инициативы и наносит колоссальный экономический ущерб республике.

**БелаПАН**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



# ФУТБОЛ:

# В НОВЫЙ СЕЗОН С ОПТИМИЗМОМ


*ШУБЕНОК Алексей Иванович, 15.09.1961, главный тренер.*


*ДАНИЛЕВИЧ Юрий Михайлович, 27.04.1969, второй тренер.*


*ТРОФИМЧИК Иван Владимирович, 17.10.1956, врач-массажист.*


*ПАШКЕВИЧ Сергей Александрович, 11.11.1965, администратор.*

Накануне старта VIII чемпионата Беларуси по футболу наш корреспондент встретился с главным тренером "Коммунальника" **Алексеем Шубенком** и взял у него интервью.

**— Алексей Иванович, как прошло межсезонье? Всё ли удалось сделать из того, что было запланировано?**

— После окончания нашего первого чемпионата в высшей лиге была составлена программа "улучшенной" подготовки к новому сезону. Однако выполнили мы ее не полностью, хотя определенный объем работы проведен. Исходя из наших материальных возможностей, команда готовилась дома, за исключением трёх турниров, которые провели на выезде: играли в Пинске (дважды), в Жодино, а также на розыгрыше кубка области.

**— Как никогда в этом году было много игроков на просмотре в слонимской команде. Кто из них пополнил "Коммунальник", а кто ушел?**

— Новые игроки — это не только "свежая кровь" в команде, но и создание определенной спортивной конкуренции, борьба за место в составе клуба. К сожалению, не все игроки, к которым мы присматривались, подошли нам. Некоторые из них не соответствовали уровню высшей лиги. Поэтому в новом сезоне в "Коммунальнике" будет не так уж и много новобранцев. Но учитывая, что чемпионат обещает быть очень сложным по накалу борьбы, пригласили ряд опытных футболистов. С их появлением мы связываем определенные надежды. В частности, крайним защитником будет играть Андрей Хмелев, известный по выступлениям за бобруйский "Шинник" и рогачевский "Днепр". Передним центральным защитником будет Геннадий Феоктистов ("Трансмаш"). С уходом в Молодечно Виталия Михалева, мы пригласили опорного полузащитника Олега Киреню, который выступал в команде второй лиги "Кардан-Флайерс". Усилилась и атакующая линия за счет нападающего Евгения Савоня ("Неман" Гродно).

Большие надежды мы связываем и с нашими бомбардирами Олегом Савицким и Георгием Татарашвили , а также с хорошей игрой остальных ребят. В основном, костяк команды сохранен.

**— Насколько хорошо обеспечена команда материально? Есть ли у Вас уверенность, что во время чемпионата клуб не будет иметь проблемы из-за отсутствия финансов?**

— Как правило, если улучшаются позиции команды в чемпионате, то должно улучшаться и финансовое положение клуба, его материально-техническая база. Мы благодарны и руководству города и нашим учредителям, которые помогают "Коммунальнику".

Конечно, хотелось бы немного большего к тому минимуму, который необходим для команды, которая играет в высшей лиге.

Стоит отметить, что чемпионат этого года будет широко освещаться белорусскими СМИ. Например, телевидение запланировало регулярные трансляции футбольных матчей. 25 апреля наши земляки смогут по телевизору посмотреть игру нашей команды на выезде в Бресте с местным "Динамо".

**— Каковы планы команды в грядущем сезоне?**

— Главная задача — выступить не хуже, чем в прошлом году (напомним, что в 1997 году "Коммунальник" занял 11-ё место). Команда будет бороться за место в первой десятке.

**— И последний вопрос. Что бы Вы хотели пожелать болельщикам "Коммунальника"?**

— Пользуясь случаем, хочется передать через "Газету Слонімскую" слова благодарности всем друзьям и поклонникам команды. Мы очень надеемся на их поддержку. Команда же в свою очередь постарается не разочаровать их своей игрой и результатами.


*КИРКИЖ Игорь, 19.10.1970, рост 186, вес 84, вратарь.*


*ТРУСИЛО Виктор, 25.02.1974, 186/79, вратарь.*


*ДЫМ Николай, 23.05.1974, 182/75, защитник.*


*ЯНКОВСКИЙ Владимир, 03.02.1971, 178/73, защитник.*


*ХМЕЛЕВ Андрей, 19.03.1966, 178/68, защитник.*


*ЖУКОВСКИЙ Валерий, 03.09.1977, 186/78, защитник.*


*БАЛЬ Алексей, 04.10.1968, 172/71, полузащитник.*


*КОЛЯДЧИК Валерий, 12.09.1969, 168/64, полузащитник.*


*ДЕГИЛЬ Анатолий, 09.09.1971, 176/69, полузащитник.*


*ДЕГИЛЬ Валентин, 09.09.1971, 174/66, полузащитник.*


*КИРЕНЯ Олег, 02.05.1975, 182/78, полузащитник.*


*ТАТАРАШВИЛИ Георгий, 15.05.1972, 189/91, нападающий.*


*САВИЦКИЙ Олег, 29.01.1973, 172/65, нападающий.*


*САВОНЬ Евгений, 14.03.1974, 186/80, нападающий.*

## ИЗМЕНЕНИЯ В СОСТАВЕ «КОММУНАЛЬНИКА».

### Пришли:

Андрей Погоцкий *(защитник, Реал (Минск),*
Валерий Жуковский *(защитник, Старые Дороги),*
Андрей Утлик *(полузащитник, Слоним),*
Евгений Савонь *(нападающий, Кардан-Флайерс (Гродно),*
Андрей Хмелев *(защитник, Днепр (Рогачев),*
Олег Киреня *(полузащитник, Кардан-Флайерс (Гродно),*
Геннадий Феоктистов *(защитник, Трансмаш (Могилев),*
Владимир Шупилов *(полузащитник, Шахтер (Солигорск).*

### Ушли:

Юрий Никиточкин *(нападающий, Ведрич—97 (Речица),*
Алексей Кузнецов *(нападающий),*
Виталий Михалев *(полузащитник, Молодечно),*
Сергей Куприков *(защитник),*
Сергей Еременко *(полузащитник),*
Михаил Головач *(полузащитник).*






## Внимание, конкурс!

**"Газета Слонімская"** и **ООО "Телкон"** объявляют конкурс по итогам выступления команды "Коммунальник" в сезоне 1998 года. Победители конкурса будут определяться по трем номинациям: первый приз достанется лучшему игроку (цветной телевизор иностранного производства), второй — лучшему бомбардиру (видеомагнитофон), третий — лучшему новичку (магнитола).

Победителей определит комиссия, в которую войдут представители редакции "Газеты Слонімскай" и ООО "Телкон". Также будут учитываться письма и отзывы болельщиков.

По просьбе руководства команды "Коммунальник" учреждается и поощрительный приз "Вместе с командой" самому преданному болельщику.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



# СЕЗОН—98

## ОРИЕНТИРОВОЧНЫЙ СОСТАВ «КОММУНАЛЬНИКА» В СЕЗОНЕ–98 (ВЕРСИЯ «ГС»)






*ФЕОКТИСТОВ Геннадий, 13.02.1972, 182/79, защитник.*



*КАПАНЕЦ Сергей, 24.10.1974, 180/76, защитник.*



*ПОГОЦКИЙ Андрей, 25.07.1979, 176/72, защитник.*



*ВРУБЛЕВСКИЙ Сергей, 06.09.1974, 176/71, полузащитник.*



*ШУПИЛОВ Владимир, 09.04.1975, 178/70, полузащитник.*



*ЦЫБУЛЬКО Андрей, 29.05.1974, 180/79, полузащитник.*

## ПРЕДСЕЗОННЫЕ ТОВАРИЩЕСКИЕ МАТЧИ:

"КОММУНАЛЬНИК"

| | |
|---|---|
| –Торпедо-Кадино | – 1:3; |
| –Торпедо Жд. | – 0:0; |
| –ФК Динамо | – 1:2; |
| –Гомель | – 2:1; |
| –Динамо-93 | – 0:2, 0:3; |
| –Пинск-900 | – 0:1, 1:0; |
| –Динамо Бр. | – 1:6; |
| –БАТЭ | – 0:0; |
| –Волынь (Украина) | – 0:2; |
| –Днепр-Трансмаш | – 1:1,0:0; |
| –Белэнергострой | – 0:1, 4:0; |
| –Береза | – 5:0; |
| –Неман | – 1:1, 0:2; |
| –Динамо Мн. | – 1:2; |
| –Динамо (Брянск, Россия) | – 2:1; |
| –Лида | – 1:0. |

## СЛОНИМ ГОТОВИТСЯ К ЧЕМПИОНАТУ

По словам директора футбольного клуба "Коммунальник" Анатолия Дюроковског о, в ходе подготовки к сезону сделан ремонт служебных помещений, сооружена комментаторская кабина, козырек над гостевой трибуной стадиона. Планируется также увеличение количества мест на зрительских трибунах. Работы будут производится по ходу чемпионата, так как к его началу не успели...

Входной билет на домашние матчи "Коммунальника" будет стоить 20 тысяч рублей, а абонемент на весь сезон — 250 тысяч. Предполагается продажа атрибутики клуба (вымпела, шарфики, шапочки). Запланирован и выпуск буклета, посвященного "Коммунальнику". Все это будет продаваться в магазине "Аквавита" по адресу: ул. Пушкина, 4 (башня).

Руководство клуба советует болельщикам приобретать абонементы заранее — это позволит, независимо от инфляции, посещать все матчи сезона.

ФОТОСТУДИЯ «Графъ-фото»
Изготовим фотографии всех форматов
от 3,5х4,5 см до 30х40 см.
Принимаем заказы на изготовление медальонов на памятники.
Качественное фото на ПАСПОРТ.
Возможна оплата по б/н расчету.
У нас высокое качество и разумные цены.
К.Маркса, 42 (здание Рембыттехники).
С 9.00 до 19.00 без выходных, ВС, ПН с 9.00 до 16.00.
27474

# КАЛЕНДАРЬ ИГР
## VIII-ГО НАЦИОНАЛЬНОГО ЧЕМПИОНАТА И КУБКА РБ ПО ФУТБОЛУ
### ПЕРВЫЙ КРУГ

**1 тур 12 апреля (вс)**
Славия (Мозырь) — Белшина (Бобруйск)
Гомель — Неман (Гродно)
Динамо-93 (Мн) — Динамо (Минск)
**Торпедо-Кадино (Могилев) — Коммунальник (Слоним)**
БАТЭ (Борисов) — Молодечно
Динамо (Брест) — Днепр-Трансмаш (Могилев)
Шахтер (Солигорск) — Локомотив-96 (Витебск)

**13 апреля (пн)**
Торпедо (Минск) — Нафтан-Девон (Новополоцк)

**2 тур 18 апреля (сб)**
Белшина — Локомотив-96
Днепр-Трансмаш — Шахтер
Молодечно — Динамо Бр
**Коммунальник — БАТЭ**
Нафтан-Девон — Торпедо-Кадино
Динамо Мн — Торпедо
Неман — Динамо-93
Славия — Гомель

**3 тур 25 апреля (сб)**
Гомель — Белшина
Динамо-93 — Славия
Торпедо — Неман
Торпедо-Кадино — Динамо Мн
БАТЭ — Нафтан-Девон
**Динамо Бр — Коммунальник**
Шахтер — Молодечно
Локомотив-96 — Днепр-Трансмаш

**4 тур 4 мая (пн)**
Белшина — Днепр-Трансмаш
Молодечно — Локомотив-96
**Коммунальник — Шахтер**
Нафтан-Девон — Динамо Бр
Динамо Мн — БАТЭ
Неман — Торпедо-Кадино
Славия — Торпедо
Гомель — Динамо-93

**5 тур 9 мая (сб)**
Динамо-93 — Белшина
Торпедо-Кадино — Славия
БАТЭ — Неман
Динамо Бр — Динамо Мн
Шахтер — Нафтан-Девон
**Локомотив-96 — Коммунальник**
Днепр-Трансмаш — Молодечно

**10 мая (вс)**
Торпедо — Гомель

**6 тур 18 мая (пн)**
Белшина — Молодечно
**Коммунальник — Днепр-Трансмаш**
Нафтан-Девон — Локомотив-96
Динамо Мн — Шахтер
Неман — Динамо Бр
Славия — БАТЭ
Гомель — Торпедо-Кадино
Динамо-93 — Торпедо

**7 тур 22 мая (пн)**
Торпедо — Белшина
Торпедо-Кадино — Динамо-93
БАТЭ — Гомель
Динамо Бр — Славия
Шахтер — Неман
Локомотив-96 — Динамо Мн
Днепр-Трансмаш — Нафтан-Девон
**Молодечно — Коммунальник**

**8 тур 29 мая (пт)**
Торпедо — Торпедо-Кадино

**30 мая (сб)**
**Белшина — Коммунальник**
Нафтан-Девон — Молодечно
Динамо Мн — Днепр-Трансмаш
Неман — Локомотив-96
Славия — Шахтер
Гомель — Динамо Бр
Динамо-93 — БАТЭ

**9 тур 3 июня (ср)**
Торпедо-Кадино — Белшина
БАТЭ — Торпедо
Динамо Бр — Динамо-93
Шахтер — Гомель
Локомотив-96 — Славия
Молодечно — Динамо Мн
**Коммунальник — Нафтан-Девон**

**4 июня (чт)**
Днепр-Трансмаш — Неман

**10 тур 9 июня (вт)**
Гомель — Локомотив-96
Динамо-93 — Шахтер
Торпедо — Динамо Бр

**10 июня (ср)**
Белшина — Нафтан-Девон
**Динамо Мн — Коммунальник**
Неман — Молодечно
Славия — Днепр-Трансмаш
Торпедо-Кадино — БАТЭ

**11 тур 13 июня (сб)**
Шахтер — Торпедо
Локомотив-96 — Динамо-93

**14 июня (вс)**
БАТЭ — Белшина
Динамо Бр — Торпедо-Кадино
Днепр-Трансмаш — Гомель
Молодечно — Славия
**Коммунальник — Неман**
Нафтан-Девон — Динамо Мн

**12 тур 17 июня (ср)**
Торпедо — Локомотив-96

**18 июня (чт)**
Белшина — Динамо Мн
Неман — Нафтан-Девон
**Славия — Коммунальник**
Гомель — Молодечно
Динамо-93 — Днепр-Трансмаш
Торпедо-Кадино — Шахтер
БАТЭ — Динамо Бр

**13 тур 24 июня (ср)**
Локомотив-96 — Торпедо-Кадино

**25 июня (чт)**
Динамо Бр — Белшина
Шахтер — БАТЭ
Днепр-Трансмаш — Торпедо
Молодечно — Динамо-93
**Коммунальник — Гомель**
Нафтан-Девон — Славия
Динамо Мн — Неман

**14 тур 30 июня (вт)**
Торпедо — Молодечно

**1 июля (ср)**
Белшина — Неман
Славия — Динамо Мн
Гомель — Нафтан-Девон
**Динамо-93 — Коммунальник**
Торпедо-Кадино — Днепр-Трансмаш
БАТЭ — Локомотив
Динамо Бр — Шахтер

**15 тур 8 июля (ср)**
Шахтер — Белшина
Локомотив-96 — Динамо Бр
Днепр-Трансмаш — БАТЭ
Молодечно — Торпедо-Кадино
**Коммунальник — Торпедо**
Нафтан-Девон — Динамо-93
Динамо Мн — Гомель
Неман — Славия

**18 июля (сб)**
**КУБОК БЕЛАРУСИ**
1/16 финала

**22 июля (ср)**
**КУБОК ЧЕМПИОНОВ**
Первые матчи 1-го квалификационного раунда
**КУБОК УЕФА**
Первые матчи 1-го квалификационного раунда

Подготовили Сергей ЁРШ и Евгений ЛИШИК

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

